

Анатоль Астрэйка

# ПАМЯЦЬ ДАРОГ



Анатоль Астрэйка

# ПАМЯЦЬ ДАРОГ



*Вершы*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1980

# АПОШНІЯ АКОРДЫ

Значная частка вершаў гэтай кнігі напісана ў 1978 годзе — апошнім годзе жыцця паэта. Ужо цяжка хворы, Анатоль Астрэйка многа працаваў. У жніўні 1978 года ён памёр. Амаль пяцьдзесят год свайго жыцця аддаў А. Астрэйка беларускай паэзіі. Першыя вершы надрукаваў у 1929 годзе, калі прыйшоў у Мінск са свайго Наднёманскага краю па вучобу. Вучыўся ў Белпедтэхнікуме, на рабфаку, працаваў у рэдакцыях газет у Полацку і ў Мінску, а ў часе Вялікай Айчыннай вайны — у Маскве. Ён заўсёды востра адчуваў, аб чым пісаць, для каго пісаць, як пісаць. Работа ў рэдакцыях падказвала яму тэмы і вобразы. Гэта адна з характэрных рысаў творчасці Анатоля Астрэйкі. З другога боку, паэт назаўсёды захаваў малюнкі і вобразы роднага краю, свайго песеннага Наднёманскага краю. Яго родная вёска Пясочнае знаходзіцца як бы ў цэнтры гэтага краю. З аднаго боку — Уздзеншчына, з другога — Капыль і Случчына, а непадалёку — радзіма Якуба Коласа — Мікалаеўшчына і Нясвіж. Гэты край маляўнічы і прыгожы сам па сабе. Там працякаюць рачулкі і рэчкі, якія разам з бацькам Нёманам накіравалі сваю плынь у Балтыйскае мора, другія імкнуцца да Дняпра і Прыпяці, каб разам з Дняпром бегчы да Чорнага мора. Берагі іх акаймаваны квяцістымі лугамі і сасновымі барамі, увабралі ў сябе ўсю прыгажосць роднага краю. Здаўна гэтыя мясціны славіліся музыкай і песнямі, легендамі і паданнямі. Успомнім хоць бы, колькі паэтаў і пісьменнікаў даў гэты край беларускай літаратуры. Я не буду пералічваць усе іх імёны. Гэта заняло б шмат месца, ды чытач і так іх добра ведае.

Пашанцавала Анатолю Астрэйку яшчэ і ў тым, што ў яго было шмат добрых настаўнікаў і сяброў — Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны, Эдуард Самуйлё-

нак, Пятрусь Броўка, Алесь Звонак, Пятро Глебка і Антон Бялевіч...

Усё гэта вельмі спрыяла развіццю творчасці паэта і паклала на ёй глыбокі адбітак. Ён друкаваўся часта і шмат, голас яго мужнеў з кожным годам, але з найвялікшай сілай ён выявіўся ў дні Вялікай Айчыннай вайны. Ён як сумленны патрыёт сваёй Радзімы не мог уявіць свой край заняволеным ворагам.

Здарылася так, што ў рады Чырвонай арміі ён не трапіў, а разам з рэдакцыямі беларускіх газет апынуўся ў Маскве. Там пачалі выходзіць ілюстраваныя выданні, спачатку «Партызанская дубінка», а потым «Раздавім фашысцкую гадзіну», якія выдаваліся ў асноўным для воінаў-франтавікоў і беларускіх партызан. Пісаў вершаваныя фельетоны, подпісы пад карыкатуры, вершы.

Але прыйшоў нарэшце час прыняць непасрэдны ўдзел у партызанскай барацьбе на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Анатоль Астрэйка спачатку пабываў на Віцебшчыне ў партызанскіх брыгадах бацькі Мінаяі Данілы Райцава. У наступны раз яго маршрут пралёг у свой родны кут на Случчыну і Капыльшчыну ў злучэнне мінскіх партызан. Кожны, хто быў у варожым тыле, ведае, як дорага было пачуць голас Масквы і непасрэдна пачуць голас пасланца Масквы, які толькі што хадзіў па яе вуліцах, прывёз пачкі цэнтральных газет і пісьмы з Вялікай Зямлі, мог расказаць шмат цікавага аб жыцці ў савецкім тыле. І вось Анатоль Астрэйка апынуўся, як кажуць, у сваёй роднай стыхіі, сярод сваіх людзей, у родных мясцінах. Подзвігі партызан, іх баявыя будні, іх жыццё-быццё натхнялі паэта. І ён пастараўся выказаць свае ўражанні, свае пачуцці ў вершах. Вершы атрымліваліся простымі і праўдзівымі, без выдумак і выкрутасаў, і яны адразу знаходзілі гарачы водгук у сэрцах чытачоў і слухачоў — народных мсціўцаў і насельніцтва. Падпольныя рэспубліканскія газеты «Звязда» і «Чырвоная змена», а таксама вершы, надрукаваныя ў выглядзе лістовак, партызаны бралі з сабой, папулярнасць іх расла, і, нарэшце, з'явілася

думка выдаць вершы Астрэйкі асобнай кніжкай у партызанскай друкарні. Прадмову напісаў сакратар Слуцкага падпольнага райкома партыі І. Кананові. Так з'явілася гэтае рэдкае, унікальнае выданне вершаў Анатоля Астрэйкі, якое сведчыла аб узлёце яго паэтычнай творчасці. У гэты ж час ён пачаў пісаць на жывым матэрыяле паэму для дзяцей і юнацтва «Прыгоды дзеда Міхеда» — таксама аб жыцці і подзвігах партызан.

За пасляваенны час паэт выдаў нямала зборнікаў новых вершаў, стварыў тэксты вядомых песень, такіх, як «Песня пра Заслонава», «Бацька мой Нёман», шэраг лірычных песень...

І вось перад намі ляжыць «Памяць дарог». Гэта пасмяротнае выданне. Ужо сам загаловак сведчыць, што паэт імкнуўся асэнсаваць свой жыццёвы шлях, разабрацца ў тым, як ён прайшоў свой шлях, што карыснае прынёс людзям. Таму амаль у кожным вершы адчуваецца філасофскі роздум над жыццём, не толькі сваім асабістым. Праўда, тут часам можна сустрэць паўтарэнні тэм і любімых вобразаў. Аднак не гэта галоўнае. Бо цяжка, нават фізічна немагчыма за паўгода адшліфаваць, давесці да дасканаласці кожны верш.

Часта паэт звяртаецца да малюнкаў маленства, але гады напамінаюць аб сабе. У адным з вершаў ён піша:

...Сяджу на прызбе, сівы дзед,
Каля бацькоўскага парога.

І нейкі хісткі змрок тугі
Плыве над месяцам рагатым.
Ля Нёмна сінія стагі
Салодкай цішынёй абняты...

За хараство пражытых дзён,
За тое, як цяпер жывецца,
Табе, зямля мая, паклон,
Падзяка ад душы і сэрца.

Вось што турбуе паэта. Той жа родны кут, бацькоўскі парог, але цяпер ужо ўсё яму напамінае аб во-

сені — і стагі ля Нёмана, і пажоўклая лістота. Значыць, прыйшла восень жыцця, і ён дзякуе роднай зямлі за хараство пражытых дзён.

Да канца жыцця А. Астрэйка намагаўся быць аптымістам, лічыў гады не за цяжар, а за асеннія пракосы. Ён цешыў сябе думкай, што

Няма чаго мне шкадаваць,
Час прамінуў, і песні спеты.
Не буду мары пазычаць
У жоўтай восені для лета.

У той жа час ён разумеў, што за лясамі, за палямі ёсць яшчэ шмат недапетых песень.

Чытач заўважыць, што амаль усе вершы зборніка «Памяць дарог» не маюць загалоўкаў, бо ўсе яны пранізаны адзінай думкай, сагрэты адным настроем і пачуццём — вялікай сыноўняй любоўю да роднага краю, да ўсяго таго, што астаецца на мілай сэрцу зямлі. «Памяць дарог» — гэта развітальная песня паэта, якая пра многае раскажа чытачу.

РЫГОР НЯХАЙ

# ЮБІЛЕЙНЫ ГОД

Быў слаўным юбілейны год,
Шырокім, творчым і бадзёрым.
Сваіх мы планавых работ
Перавярнулі, пэўна, горы.

Гуў нашай працы дружны хор
На магістралі веку — БАМе.
Мы ў космас лёталі да зор,
Паўночны полюс штурмавалі.

На дне Байкала пабылі,
Паваявалі з непагодай,
Шмат перамог мы здабылі
У славу роднага народа.

Для мэт дзівосных і для спраў,
Для шчасця ўласнага ад сэрца
Народ закон цудоўны склаў,
Што Канстытуцыяй завецца.

Ідзе да сонца наш народ
Нястрыманай паходкай.
Праславім працай кожны год
Свае дзесятай пяцігодкі.

Прыходзіць Новы год да нас,
Яму адкрыты дзверы насцеж.
Я сэрцам благаслаўляю час,
Які прыносіць людзям шчасце.



Цяпло сардэчнай дабраты
Расце някідка, непрыкметна,
Хаця саткана з пекнаты
І веснавой, і летняй.

Яно, як сонечны прамень,
Што прыцемак азорыў шэры,
У новы клапатлівы дзень
Нам адчыняе дзверы.

Вяртае к радасці быцця,
Заўжды з душы здымае змогу,
З ім песня ладзіцца жыцця
І ў хмуры час трывогі.

Вяртае зморанай душы
Святло забытае і ласку,
Яму пад сілу ўзварушыць
Старую нават казку.

Узяўшы неба пад крыло,
Вясёлка тчэ свае красёнцы.
Гатоў я дабраты цяпло
Зраўняць з вясеннім сонцам.



Пастукала сонца ў акенца
Сваім залатым прамянём,
Залезла праз шчыліну ў сенцы,
Ад сну абудзіла наш дом.

Расою сцюдзёнай умыла
За ночку заспаны свой твар.
Цяплом і святлом надзяліла
Увесь навакольны абшар.

Пад сонцам вясёлым, ласкавым
І лотаць, і бэз зацвілі.
Зялёнаю коўдраю травы
Накрылі прасторы зямлі.

Трывож мяне, сонейка, раннем,
Каб часам праспаць [redacted] не мог,
Як ладзіць жыццё вандраванне
У новую далеч дарог.



Было нам аглянуцца некалі,
Калі той дзень, каторы час.
У новае жыццё мы ехалі,
У новы паступалі клас.

Часы юнацтва легкакрылыя
Не адчувалі на плячах.
Ляцелі мы, як птушкі з выраю,
У казачны нязнаны шлях.

Яшчэ былі дарогі вузкія
Паміж балот, паміж ляскоў,
Яны засталіся нагрузкаю
Ад змрочных ад былых вякоў.

Мы ўсе дарогі перайначылі,
Пакрыў асфальт іх і бетон.
У згодзе з марамі юначымі
Уласных рук
Мы бачым плён.

Дарогі нашы ўдалеч мецяцца,
Канца і краю ім няма.
Пад сонцам ясным,
Светлым месяцам
Жывём у шчасці не дарма.



Спяць палеткі, дрэмлюць паплавы,
Радасныя казкі сняцца дзецям.
На глухіх балотах журавы
Каравуляць неспакойны вецер.

Цёплаю зялёнаю шчакой
Да мяне прыпала сёння лета.
Хіба [illegible] без ночанькі такой
Быў бы радасцю сагрэты?

Покуль звонкай песняй жаўрукі
На дасвецці раніцу разбудзяць,
Закідаць упоперак ракі
Месяц невад серабрысты будзе.

Шумна ў ладкі плёскаюць гаі
Трапяткой зялёнаю ліствою.
Звар'яцелі, пэўна, салаўі,
Граюць паланезы над ракою.

Над зямлёй нябесны парашут
З сінізны, што зоркамі затканы.
Я табой, наднёманскі мой кут,
Ад старэчых год зачараваны.



Такі гады сваё зрабілі,
Прайшліся, быццам бараной,
Сляды на твары палажылі,
Пакрылі скроні сівізной.

Крыху ссутулілі, прыгнулі
Былую роўную спіну.
...Скрышыць усё імкнуцца кулі,
Пасланыя яшчэ ў вайну.

І часта ныюць тыя раны,
Якія быццам зажылі.
Хаця акопы заараны,
Рубцоў багата на зямлі.

Па-людску будзем жыць на свеце,
Нас цешыць радасць перамог,
Што больш ніколі ліхалеццe
Наш светлы не кране парог.

Цяжар гадоў не адчуваю,
Шукаю ў старасці красу.
У днях пражытых спачываю
І ў сэрцы не гадую сум.



Мяне адольвала патрэба
У сталым веку, дзівака,
Пасля зімы ў вясеннім небе
Паслухаць спевы жаўрука.

За гарадскія камяніцы
Яшчэ я выбраўся засвет,
Каб нашча песняй прычасціцца
Тваёй, блакітных ніў паэт.

І хоць зямля яшчэ ў адкосах
Была і голай і сырой,
Усё званчэй жаўрук з нябёсаў
Вяснянкай цешыў нас сваёй.

Вясна прыйшла, вясна настала,
Я з жаўруком спяваць гатоў.
А з поля песня далятала
Да белакаменных муроў.

Калі вясна ў наш край прыходзіць,
Зямлі я радасці хачу.
Я першы раз у гэтым годзе
Над нівай жаўрука пачуў.

*

Заўсёды пачатак вясёлы,
З надзей ён гарачых і мар.
Хмурынкі — нябёс навасёлы,
На дрэвах праменняў пажар.

Сатканыя ранкі з блакіту,
Навокала буйную квецць
Бяссмертнікаў і маргарытак
Не знаю куды мне падзець.

Яшчэ не набраўшы разгону,
Упэўнена, хоць спакваля,
Але па-юнацку ўтрапёна
У сталасць імкнецца зямля.

Я ўсё пачынаю спачатку,
Забыўшы пражытыя дні,
Сабе раскарчоўваю градку,
Старыя выкідваю пні.

Свайго не шкадую старання
І ўсё паганяю каня.
Далёка яшчэ да змяркання,
Хоць схілена сонца з паўдня.



Стала і блакітным і глыбокім
Неба сіняе без дна.
Гэтак падняла яго высока
Дзеля радасці вясна.

Над зямлёй вясенняя калыска,
А ў калысцы — кветкі мар.
Сонца спелае з арбіт няблізкіх
Свой па небе коціць шар.

Надышлі часіны аднаўлення
Зноў, зямля, тваёй красы.
Славяць шчасце новага цвіцення
Веснавыя галасы.

Птушак несціханыя рулады
Ясным днём і на зары
Славяць сонца радасную ўладу
На палетках і ў бары.

Не хапае ўпынку дням вясновым.
Як зара, гарыць лямеш.
Любім мы на полі звон сталёвы,
Нівы без канца і меж.



Я не сумую, не тужу,
Што змецена вятрыскамі.
У вузел памяці вяжу
Далёкае і блізкае.

Не знаю, як усё ў мяне
У куль сумесна звяжацца.
Аб восені і аб вясне
Аднолькава не кажацца.

Пачуцці — не ўчарашні сон,
Надзей святло не старыцца.
Вясенні клён і летні клён —
Няхай ім вечна марыцца.

Люблю зямную прыгажосць,
Чароўную, духмяную,
Такую ўсю, якая ёсць,
Жыццём падараваную.

Адметнасць дзён я пазнаю,
Хоць шэрань часам блытаю.
Замілавання ж не таю
К зямлі, вясной абмытаю.



Развалiны няспраўджаных iлюзiй,
Абломкi заржавелых дзей i мэт,
Я не капаюся ў мiнулым друзе,
Iх не выцягваю на белы свет.

Цi шкадаваць жа мне, што не збылося,
Што пахавана часам назаўжды.
I толькi памяць пылам не заносiць
Счарнелага пажарышча сляды.

Даўно ўсё зарасло травой i мохам,
Як быццам тут нiчога не было.
Замураваны скарг старыя лёхi,
Збiраю я для новых дзён цяпло.

Жыццё пражыта без падману,
Хоць не кляпаць мне ранiцой касу.
Яшчэ на травах чэрвеньскiх туманы
Не ўсю маю павыпiлi расу.

Няхай сябе пацешу абяцаннем,
Што ў вольны час на Нёман загляну.
Калi растуць пачуццi i жаданнi,
Дык, можа, iх у яву абярну.

*

У зажуранай лёгкай смузе
Дні дастойвалі восеньскі час.
На прынёманскім шэрым стазе
Бусел статак прад выраем пас.

Важакам даставала турбот:
Іх на лузе сягоння парад.
Па-салдацку ўздымацца ў палёт
Трэба ўсіх навучыць буслянят.

З самай раніцы сонечным днём
Прыбягаў паглядзець я не раз
На бусліны той аэрадром,
На вучэбных палётаў паказ.

І яны да вячэрняй зары
З лугавых узляталі нізін.
Каб лягчэй было здолець вятры,
То ланцуг будавалі, то клін.

Прамінулі гады. Помню з даўніх часоў,
Як збіраліся птушкі ў палёт,
Як вучылі буслы летуноў
Цягнуць шнур да заморскіх шырот.

* * *

З-за цёмных куліс на зямлю
Ступіла суцішша начы.
Куды я яго прытулю
І як панясу на плячы!

Заўжды нараджае адчай
Прыглушаны к вечару змрок.
Няпэўныя цені ў вачах,
Не ўцяміць нічога здалёк.

Я шэры туман расхіну
І месяц павешу між хмар,
Каб ціхім святлом агарнуў
Ён цемені сонны гушчар.

І высею пацеркі зор
На поле, лугі і лясы,
Хай мыюцца ў срэбры азёр,
Палаюць у кроплях расы.

А хмара насуне свой брыль,
Пад дах уцяку ад начы.
Станцуюць маланкі кадрыль
І лягуць пад ранне спачыць.



Ты пытаешся, адкуль
Гэты колер жаўтаваты?
Ад страхі застаўся куль,
Дзед скідаў, на голаў трапіў.

З саламяных тых часоў
Колер валасоў жытнёвы,
А між спелых каласоў
Вочы з кветак васільковых.

Так спрадвеку між сабой
Дружаць васількі і жыта,
Жоўты колер з сінізной,
Колер залаты з блакітам.

Ведаеш цяпер, адкуль
Стаў я гэткім рыжаватым.
Лішні саламяны куль
Быў ва ўсім тут вінаваты.



А не было куды сысці,
І блізка не было нікога,
Каб не дазволіць дарасці
Журбе дакучнай да трывогі.

А ўсё прыйшлося так не ў час,
Патрэбна ж здарыцца такому,
Калі агонь цярпення гас,
Прыходзіў час дажджоў і грому.

Як падсцярог жаданні крах,
Дык смутак да цябе хінецца.
Ніякі не ўратуе дах
Ад непагоды твае сэрца.

Таму ў кіпучую душу
Тугу я сею для саломы.
Вазьму пад восень і скашу
І застагую каля дома.

Няхай сама перажыве
Дажджы, зімовы холад люты,
Мо па вясенняй па траве
Яна ў душы народзіць смутак.

*

Святло ўздымалася над плёсам,
І раптам павіднела даль.
Не месяц выйшаў на нябёсы,
А залаты заззяў медаль.

Каля сябе згасіў ён зоркі,
І неба стрэлася з зямлёй
Без сведак на сваю гаворку
Перад вясноваю парой.

Свой час прабавілі ў гамонцы
Яны да ранішняй зары,
Аж покуль не спіхнула сонца
Кудлаты месяц за бары.

У промнях сонца, дзіўных косах
Шуміць зялёная зямля,
Блакітам хочацца нябёсам
З ёй падзяліцца хоць здаля.

Каб я вясне мог песню скласці,
Дык месяц упрыгожыў даль,
Людзям на радасць і на шчасце
На небе вывесіў медаль.

* * *



А я нічога тут не кратаў,
Сабе спакою не шукаў,
Быў рады колерам багатым
Прынёманскіх пахучых траў.

У небе жаўранкі звінелі
На ўсе няхітрыя лады,
У лазняках струмені пелі
Свой старажытны гімн вады.

Зязюля на вярбе гасціла
І, як цыганка, рэй вяла,
Камусьці моцна нахлусіла,
Мне шмат гадоў недадала.

Нясмела салавей азваўся
Каля ракі на статку ліп.
За ноч ён гэтак наспяваўся,
Што аж пад раніцу ахрып.

І плюхнуў сом каля карчагі,
Пайшлі аж пырскі ад ракі,
Ды каня плакала ад смагі,
А ў лозах нылі кулікі.

Не бралася на вуду рыба,
Прачнуўся бусел на сасне.
Я дальш па беразе падыбаў
Насустрач сонцу і вясне.



Шукаў я надзей берагі,
Ганяўся за ветрам у полі.
Яны, як на Нёмне кругі,
Усё не стаяць на прыколе.

Знайсці берагоў тых не змог,
А іх чараўнічасць падкрэслю:
Сатканы надзеі з трывог,
Са слоў неспяванае песні.

А ты іх паціху змажы,
Матыў разгадай той нязнаны.
Без іх мне і дня не пражыць,
Я шчасцем без іх абакраны.

Люблю я грамоў валтузню
І буйнага ветру парывы,
Як заўтрашні дзень даганю,
Тады я бываю шчаслівы.

Яшчэ патапчу я траву,
Хоць зайздрасць к юнацтву і маю,
Але не збяднелым жыву,
Я гэта душой адчуваю.



А думаў я, што перажыў
Усе зямныя захапленні,
Чаго чакаў, па чым тужыў,
Цяпер пастаўлю на калені.

Гук слова і яго вагу
Смялей нібыта адчуваю,
Да іх павагу берагу
І з імі па жыцці блукаю.

А не звужаецца сям'я
Тых слоў, што мною не здабыты,
Яны растуць, растуць штодня,
Як ураджай на полі жыта.

Я іх збіраю, як пчала
Нектар для мёду
З весняй краскі,
Каб красавала і была
За гаспадыню ў хаце казка.

Жыву ва ўладзе новых мар,
Шукаю слоў жывыя рэкі,
Славесны цераблю гушчар,
Для думак светлыя прасекі.



На схіле год я не ў разладзе
Ні з часам, ні з самім сабой.
Хаджу я па асеннім садзе
То з весялосцю, то з журбой.

І на зіму не наракаю,
Што многа снегу намяла,
Яшчэ пагожых дзён чакаю,
Багатых шчасця і цяпла.

Люблю гармонію ў прыродзе,
Зімой сумую па вясне.
З жаданнямі сваімі ў згодзе.
А большае ці трэба мне?

Пачуцці я не раскідаю,
На іх не нарасці імху.
Усё, што здарыцца, прымаю
На заўтрашнім маім шляху.

## НОВАЙ ВЯСНОЙ

Нарадзілася з суму, з трывогі
Гэта песня ў прыціхлай душы.
Запыліліся ўчора дарогі,
І няма куды болей спяшыць.

Адпачыць бы, на момант прылегчы
Пад бярозай на гэтай мяжы.
Хопіць сэрцу за ўсмешкамі бегчы,
Па нязведаных далях тужыць.

Шмат жа сходжана сцежак і яраў,
ПераЖытае спаць не дае,
Шмат патушана ў сэрцы пажараў,
Але ўсё мне чагось не стае.

Вабіць зорак далёкіх мігценне,
Новых вёсен лістота і цвець,
Прага ўбачыць зямлі аднаўленне,
Нараджэнне красы падглядзець.

Сэрцу трэба відочна замнога,
Яно вечна ў грудзях на хаду,
Зведаць трэба і тыя дарогі,
Што з юнацтва у старасць вядуць.

Спачываць мне яшчэ не да твару,
Я не ўсю абышоў старану.
Калі выйдуць на бераг свой мары,
На тым беразе я адпачну.

## ПАЧАТАК НЁМАНА

Малая здаецца крыніца,
А вычарпаць нельга да дна.
Шапоча над ёю іглiцай,
Ратуе ад спёкі сасна.

Прыходзяць ласі і лісіцы
Звярынай сцяжынкай сюды.
Ніколі лясная крыніца
Для іх не шкадуе вады.

К сасне прылятаюць сініцы,
З замшэлых ялін глухары
Сцюдзёнай вадой асвяжыцца
З крыніцы, што ў нашым бары.

Крынічка спявае, смяецца
І рада між звонкіх сасён,
Што к ёй у люстэрка глядзецца
Прыходзяць бярозка і клён.

А з той невялікай крыніцы,
Як нітачка праз хмызнякі,
Струменьчык вясёлы бруіцца —
Пачатак славутай ракі.

*

Я па жаданні ў бор хадзіў,
Блукаў, што па тайзе дрымучай,
Ды не знайшоў ніякіх дзіў,
Для сэрца радасці гаючай.

Хацеў сустрэцца з навізной,
Дадаць душы крыху настрою
І хоць трывожнаю цаной
Не прышчапляць лагоднасць мроям.

Я ведаю, па чым тужу,
Яна адпавядае ўзросту,
Яе ў мяшок я пагружу
І ў вір глыбокі скіну з моста.

Сваіх пражытых год цяжар
Хіба на кілаграмы ўзважу?
Пражытаму не трэба кар,
І старасць смуткам рук не звяжа.

Не вылечыць душу падман,
Калі пачуцці ўжо не тыя.
Дап'е з лугоў расу туман,
І паліюць дажджы касыя.

А я стаяцьму пры акне,
Ўжо для трывогі стараваты.
Калі ж дарога зноў гукне,
Я выбегу напэўна з хаты.

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

Адкрыта сэрца лету насцеж.
Хацяя адцвіў вясенні сад.
Яшчэ свіціцца познім шчасцем
Вачэй усцешаны пагляд.

Буяе ў поўнай сіле лета,
Плады вырошчвае зямля.
Але куе ўжо бранзалеты
З лістоты восень спакваля.

Давай жа заўважаць не будзем
Хады жыцця, хады падзей,
І недзе за парогам згубім
Няспраўджанасць сваіх надзей.

І сэрца будзе роўна біцца,
Не адчуваючы ярма.
Тады мы здолеем забыцца,
Што будзе зноў шумець зіма.

Калі ж убачым нечакана,
Што ўжо і гурбы намяло,
Прысніць старую апантанасць
Мяцеліц белае крыло.



Не ўмею доўга быць пахмурым,
Вітаю сонечны прамень.
Як утаймую ў сэрцы буру,
Знікае з твару хмуры цень.

А хмурасці ў душы багата
Нам засталося ад вайны,
Нас часта засмучаюць страты
Сяброў у росквіце вясны.

І ўсё іх застаецца меней,
Наш дружны сірацее круг.
Балюча, калі ў час цвіцення
Агонь надзей раптоўна тух.

Раптоўных і непапраўімых
Нічым нам не запоўніць страт.
Па іх пад гэтым небам сінім
Не раз зямны журыўся сад.

І мы, жывыя, шляхам веснім,
Пакуль пазіцый не здалі,
Высока будзем несці песню,
Хто варты песні на зямлі.

* * *

Я пражыў усе выпрабаванні,
Што мне наканаваў суровы лёс.
Я пражыў усе расчараванні,
Але любоў к вясне ў душы пранёс.

Хоць мне здавалася, што бура сціхне,
Што страціў свежасць думак я ў гадах,
Што больш ніколі ўжо мяне не вытне
Ніякая раптоўная бяда.

Што будуць абыходзіць маю хату
І зайздрасць хціваая і смутку золь,
Што я ўжо ціхай старасцю залатаў
Па новых марах і надзеях боль;

Што на душы павольна будуць каласіцца
Палын гаркавы ды чартапалох
І толькі зрэдку ў час завейны сніцца
Даўнейшы пыл сцяжынак і дарог.

О, колькі ў сэрцы, у камочку гэтым,
Вяршынь да неба і глыбінь без дна!
Надзей і мар, і мудрасці сусвету,
Красы тваёй, адвечная вясна.



Перад судом свайго сумлення
Гатовы несці я адказ,
Калі зняважыў летуценні,
Свой змарнаваў юнацкі час.

Калі з трывогамі не знаўся,
Садзіў за стол з сабой ману,
Калі за праўду не змагаўся,
А набіваў сабе цану.

Калі туляўся па абозах
І цешыўся самім сабой,
Хаванкі выбіраў у лозах,
Калі грымеў навокал бой.

Калі яго пакрыўдзіў, можа,
Сваім сябрам не дапамог,
Як на душы было нягожа
У час бяды, у час трывог.

Вынось тады па поўнай мерцы
Свой прыгавор, сумлення суд,
Каб вызваліць душу і сэрца
І ад сумненняў і пакут.

Калі не знойдзе адступленняў,
Начыста апраўдае суд,
Яшчэ хай вынесе рашэнне:
Пазбавіць болі і пакут.

*

Навальнічных дажджоў цапы
Каторыя суткі пляжаць.
Яны ў пыл
Змалацілі пыл
Гравійкі на пікаляжы.

Цяпер і ехаць у самы раз
Нам нават у паўтаратонцы.
У кюветах пыл пагас,
І не падсмажвае сонца.

Але лепш сваёй хадой
Паважаю дахаты дарогу.
Сустрэнуся з старой вярбой,
На траве пакіну змогу.

Пахаджу, вакол пагляджу,
Што было і што стала,
Асцярожна ў сабе абуджу,
Што калісь хвалявала.

На Бабоўню дарога тут,
А вось гэта на Рымляны.
Мой спрадвечны Капыльскі кут
Пагоркамі акаймаваны.

Ці малоцяць дажджы,
Ці стаіць сухмень,
Я люблю тваё ўлонне зямное.
У пахмуры і сонечны дзень
Неразлучны заўсёды з табою.

* * *

Павырывала без спагады
Нядоля сілаю вятроў
З душы маёй, старога саду,
Багата родных і сяброў.

Не ў час, раптоўна, нечакана,
Пакінуўшы ў маёй душы
Пякучы боль, боль апантаны,
Які нічым не заглушыць.

Адчуць сябе даюць блакады,
Вайна, страшэнная вайна.
Кладуцца ўсё бліжэй снарады
І да майго ўжо будана.

Я час апошні адкладаю,
Хай зарубцуюцца сляды
Раненняў цяжкіх і адчаю,
Старой няскошанай бяды.

Яшчэ ж пажыць на свеце трэба.
Хачу я паглядзець, калі
Ізноў у невядомасць неба
Зямля падыме караблі.

Няхай жа вецер часу міма
Агонь смяртэльны пранясе.
Не трэба страт непапраўных,
Калі жыццё ў такой красе.

*

У палоне памяці стаю,
Перажытае перабіраю,
Быццам пасля буры у гаю
Сцежкі ўжо зарослыя шукаю.

Колькі тут няспраўджаных надзей,
Гэтых самых паламаных цацак!
Я хацеў бы тое разглядзець,
Што калісьці з-за нядбайства страціў.

То з усмешкай, то з журбой гляджу
На свае старыя абеліскі.
Не тужу па іх я? Не тужу!
Хоць у сэрцы іх стаіць прапіска.

Памяць — мой невычарпальны склад,
І дарма, што ўсё ляжыць навалам,
Можа, навяду як-небудзь лад,
Каб яно ва мне не сумавала.

Можа, адшукаю, адбяру
Тое, чым магчыма ганарыцца,
Як сваю мы зберaглі зару,
Што над светам ясна прамяніцца.



А што здарылася такое?
Вясна чарговая прыйшла,
З сабою многа неспакою
Зямлі і людзям прынясла.

Прыродзе аднавіцца трэба,
Травінку кожную ўзрасціць,
Зімой спустошаную глебу
Жыццём магутным надзяліць.

Шумець і песнямі і звонам
Палёў зялёных і садоў
І славіць радасна, натхнёна
Красу зямную і любоў.

І чалавеку за старанне
Хвалу сяброўскую прапець,
Аддзякаваць зачараваннем
І харастом душу сагрэць.

Мне так хацелася вясны,
Што траціў над сабою ўладу.
І вось яе сляды відны,
Зямля ўся стала белым садам.

## БРЭСЦКІ ТРАКТ

Пракладзены шырокі тракт за вёскай,
Пралёг ён праз палеткі і бары.
Здаецца, з лесу выбеглі бярозкі,
Сямейкай дружнай сталі на гары.

І мне самому хочацца падацца
У новую разведку за красой,
Дзе нівы неабачна залацяцца,
Туды, дзе неба сходзіцца з зямлёй.

Паміж сабою гарады яднае
І вёскі звязвае паміж сабой
Дарога тая, што струна, прамая,
Каторую завём мы сталбавой.

Імчацца нам па сонечных дарогах
У даль наступную, у вір падзей,
Да радасці, да шчасця маладога,
Услед за казкай, з берага надзей.

Удзень і ўноч шаша гамоніць з веццем
Бяроз кудлатых, клёнаў і сасны.
Каб весялей жылося нам на свеце,
Яна маёй радзімы сувязны.

*

Яшчэ не сцішылася ноч.
Сасновы бор свае казанні шэпча,
Яшчэ зары смалісты корч
Збірае воблачкі на веча.

І перасмешнікі дразды
Вядуць з раднёю пераклічку,
Яшчэ грукочуць паязды
Неўгамаванай электрычкі.

І вылез месяц з-за гары,
На небе прыкляпаў падкову,
Каб мак паціху камары
Стаўклі парою вечаровай.

Сяджу маўкліва пры акне
І не тушу святло на дачы.
Забыцца сном няможна мне,
Бо скрыпка за сцяною плача.

Аднекуль прыляцеў пугач
Сюды да ельніка старога
І, скрыпкі выслухаўшы плач,
Па лесе свой рассыпаў рогат.

Я вечаровы час люблю,
Калі змаўкае голле бору,
Калі прыходзяць на зямлю
І ў росах засынаюць зоры.



Хаця жыцця не маю запаснога,
Штодзень і штохвіліны аддаю
Надзеям невычэрпным і трывогам
Я маладосць гарачую сваю.

І ўсё ж не знаю, як жыццё я трачу:
Хвілін і дзён шчаслівых не лічу.
Мінулых дзён нічым не перайначу,
Ды іх і перайначваць не хачу.

Яны старыя ўжо, яны прапеты,
Іх аганёк удалечы пагас,
А новае нястомленае лета
Пакуль яшчэ не здадзена ў запас.

Жыццё сваё узважваць немагчыма,
Дзяліць яго на радасць і тугу,
Калі няма агню, не будзе дыму,
Без сонца я не знаў бы пра смугу.

Хаця жыцця не маю запаснога,
У сэрцы я нічога не таю.
Жаданням непагасным і трывогам
Сваю душу і сэрца аддаю.

Калі ж яно раптоўна абарвецца
І я пад сінім небам замаўчу,
Другой душы я і другога сэрца
Як запасных к сабе не прытачу.

*

Хаджу я ў лес, як на базар,
З прыемнасцю і асалодай.
Дамоў нашу лясны тавар,
Найлепшыя дары прыроды.

Сабраў у засені смугі,
Дзе золата іглiцы,
Глядзелі з моху крапягі,
А побач — бабкі і лісіцы.

Паклон баравіку заўжды,
Ён самы важны грыб у лесе,
А ля яго стаяць грузды,
Грыбныя розныя прынцэсы.

Люблю хадзіць я па бары,
З багацця і красы дзівіцца.
Лясных урочышчаў дары
Мне і зімою будуць сніцца.



Адценні думак, спраў адценні
Сваю захоўваюць вагу.
Я спадзяванні і імкненні
Ад злога вока берагу.

Калі ж няма куды падзецца,
Калі жывеш, нібыта ў сне,
Калі туга пілуе сэрца,
Тады не вельмі добра мне.

Хаця не стану я пакорным,
Перацярплю пахмуры дзень.
Пакуты перамелюць жорны
Высокіх думак і надзей.

Усё мінаецца на свеце
Пад песні клёнаў і асін.
Я чорных кветак з ліхалецця
Не рву пра смутак на ўспамін.

Я не збіраю змроку цені,
Яны без памяці, як сон.
Я сею ў сэрцы летуценні,
А ўвосені збіраю плён.



У маладосці — крылы,
У старасці — развага.
У маладосці — сіла
Ды яшчэ адвага.

У маладых дарога
Надзеямі абвіта.
Каля майго парога
Палавее жыта.

У маладосці — мары,
Хада без асцярогі,
Далёка недзе хмары,
Снежныя аблогі.

Жыццё лічыў я песняй.
Не помню той пацехі,
Калі з часіны веснай
У старасць пераехаў.

Здаецца мне, старому,
Што толькі стаў на ногі,
Сабраўся выйсці з дому
У дальнюю дарогу.

*

Жыццёвы шлях я засяваў
Сваімі марамі старанна.
На іх выростала трава,
Але не сыпалася манна.

І толькі часам дзе-нідзе,
Не на гары ўжо, а на схіле,
Асколкі скрышаных надзей
Валяліся ў дарожным пыле.

Не ўмеў жаданні берагчы,
Збываліся яны, старэлі,
Спачыўшы на маім плячы,
Да новых берагоў ляцелі.

На мроі быў я не скупы
І часта неашчадна траціў
Агеньчык іхні залаты,
Сваё юнацкае багацце.

Перад сабой не саграшу,
Па днях былых не маю скрухі.
Надзей агеньчык не тушу,
Яго ўжо большым не раздзьмухаць.

Жыццёвы шлях я засяваў
Сваімі марамі старанна,
Расла на тым шляху трава,
Перападала й манна.

*

Я не хаваюся за словы
І не будую з іх застаў.
Ніколі шырмай каляровай
Не адгароджваў мэт ад спраў.

Са слоў красу я здабываю
І іх, як пацеркі, ніжу.
У словы думкі апранаю,
Над песняй з імі варажу.

І слоў харошых, што ад сэрца,
Я не шкадую для сяброў.
Каля свайго кастра пагрэцца
Нас клічуць дружба і любоў.

А словамі, дзе злосці многа,
Што выварочваюць душу,
Бязлітасна, без асцярогі
Я лютых ворагаў глушу.

Я не хаваюся за словы,
Не маскірую пустацвет,
Які пралажан шлях жыццёвы,
Такім хай застаецца след.



Калі мінулых дзён праменні
Наступны не асветляць шлях,
Не скалыне душу здзіўленне,
Не адгукнецца ў новых днях.

А дзень былы і дзень наступны
Адным жа звязаны вузлом.
І ў днях былых гарэла рупнасць
У шчасце быць павадыром.

Я дні забытыя гартаю,
Праходжу іхні ўвесь маршрут
І тых вякоў перажываю
Красу жыцця і боль пакут.

О, колькі ж перажыта гора,
О, колькі пралілося слёз,
Пакуль асветленым стаў морак
І чалавек у шчасце ўрос!

Сярод пакут, сярод адчаю
Агонь надзей і мар не гас.
Мінулы час я вывучаю,
Каб сённяшні акрэсліць час.

*

На ўскрайку памяці стаю:
Багата я сярод знаёмых
Дарог, сцяжынак пазнаю,
Мастоў праз тоні і паромаў.

Сляды праз багну і снягі
Ляжаць у пеoражытым друзе,
З былых надзей і мар стагі
І звязаныя рэйкі ў вузел.

Гады праходзяць прада мной,
Як перад маршалам салдаты,
То з горда ўзнятай галавой,
А то з адценнем вінаватым.

Хапала сонца і цяпла,
І рознай шэрасці хапала,
А месца даўняга жытла
Прычалам казак стала.

На ўскрайку памяці стаю.
Ля даўніх дзён мне не сагрэцца.
Паклон быломү аддаю
І ўдаль пайду, пакуль ідзецца.

*

Адчай не ратаваў людзей ад гора,
Ён крахам быў,
Прыводзіў у тупік.
Дзе панаваў адзін халодны морак,
Апошняй паняверкі дзікі крык.

Не раз губляліся ў слязах адчаю
Шляхі да радасці і перамог.
Адчай заўжды няўпэўненасць раджае,
Калі шугае полымя трывог.

Адчай і паніка
Здаўна суседзі,
Скаваны ланцугом паміж сабой адным,
Іх трэба ўбачыць,
У жыцці падгледзець,
Развеяць страху іх пануры дым.

Няўпэўненасць начуе ў панікёраў,
У іх і пасяляе вораг змрок,
Каб душы нашыя знявечыць горам
І наш затармазіць жыццёвы крок.

Ніякаму не скорымся адчаю,
Мы знаем,
Што такое паніка і зман.
Дарогу нашу сонца асвятляе,
А сонца не азмрочыць і туман.

*

Я безнадзейна спадзяваўся
На нейкіх ісцін адкрыццё,
Да дзён прытомленых вяртаўся,
Гартаў забытае жыццё.

Яно ж прад мною ажывала,
І час яго не астудзіў,
Мяне нанова хвалявала,
Раджала ў сэрцы промні дзіў.

Калі журыліся бярозы,
Карцела да вясны дажыць.
У роспачы
Бяды пагрозу
Хацеў я ценем засланіць.

А цень — ад сонца толькі схова,
Не быў ніколі ён шчытом...
Квітаўся я з вайной суровай
І словам гнеўным,
І штыком.

Высока?
З гонарам пранеслі
Цераз варожы мы заслон
Жыцця свайго лясную песню
Да новых подзвігаў і дзён.

Не безнадзейна спадзяваўся
Я на сябе і на людзей.
У цяжкі час пераканаўся:
Жыццё за смерць
Нашмат мацней.

*

А мне, на жаль, за шэсцьдзесят.
Хаджу ўжо болей асцярожна.
Хаця й румяніцца закат,
З усходам параўнаць няможна.

Паўвека будаваў свой свет,
Не выбіраючы дарогі.
...Сяджу на прызбе, сівы дзед,
Каля бацькоўскага парога.

І нейкі хісткі змрок тугі
Плыве пад месяцам рагатым.
Ля Нёмна сінія стагі
Салодкай цішынёй абняты.

Не чутны птушак галасы,
Падміргваюць з нябёсаў зоры.
А месяц тчэ з іх паясы,
Сушыць вывешвае над борам.

Да дня гатовы прасядзець
Я ў ціхім дыме тумановым
І слухаць, як лістоты медзь
Паміж сабой вядзе размову.

За хараство пражытых дзён,
За тое, як цяпер жывецца,
Табе, зямля мая, паклон,
Падзяка ад душы і сэрца.



Усё, што хвалявала і трывожыла,
Не ўспыхне полымем,
Не займецца агнём.
Гады пачуцці сцішылі, стрыножылі,
Асірацеў без маладосці дом.

Я не раздзьмухваю касцёр патушаны,
Адно ж вуголле чорнае, адна смуга.
І як бы наваколлем быў ні ўзрушаны,
З журботнага не рвуся ланцуга.

Чакаю добрых дзён і добрых месяцаў,
Часовыя свае забыўшы нелады.
Я на замок закрыю сэрца весніцы
І тым адгараджуся ад бяды.

Але ўзялі мяне зусім сканфузілі,
Прызналі ўвосень хворым дактары
І зблыталі надзеі і ілюзіі,
Хаджу са спадзяваннем па бары.

Я распалю агонь,
Няхай займаецца,
Хай тушыць непагадзь,
Як раніцай зара,
Хай лёс мой больш з бядой
не сустракаецца...
Няшчасці выкраслю з календара.

* * *

Ніяк бяду пад старасць не пазбыць,
Пустою бочкай на шляху грукоча.
У кожнай хмары гром грыміць,
І з кожнай хмары дождж цуркоча.

Калі з усходу хмара напаўзе,
Упапярок і ўдоўж сячэ маланка,
Струменьчыкі танцуюць на лазе
І возерам становіцца палянка.

Сярпок маладзіка за дзень падрос.
Пад вечар вецер вымеў хмары з неба.
І вось нахлынуў з поўначы мароз
І холадам сівым знявечыў глебу.

Чаго ж было не пачакаць да свят?
Зімой хапіла б ледзянога муру.
Дык не пакінуў ні садоў, ні град,
Ператварыў у могілкі ўсё здуру.

Здаецца ж, хмары, як плыты, плылі
І неба не прадказвала пагрозы.
Яшчэ б пакрасавала на зямлі
Людзям на шчасце восень без марозу.

Ніяк бяду пад старасць не пазбыць,
Пустою бочкай на шляху грукоча,
У кожнай хмары гром грыміць,
І з кожнай хмары дождж лапоча.

*

Каб я сябе пашкадаваў,
Пазбавіў некага увагі,
Куды б тады я падзяваў
Жыццёвую няўмольнасць прагі?

Ступаць яшчэ, хадзіць яшчэ,
Таго, што будзе, дачакацца,
Слязой не пляміць бляск вачэй,
На песню песняй адклікацца.

І нінавошта не зважаць,
Цярпець смугу з-за дзён вясенніх,
Палеткі роспачы звужаць,
Расціць вясёлыя імкненні.

Нязбыўных не трывожыць мар
І спеў любіць іх шматгалосы,
Лічыць гады не за цяжар,
А за асеннія пракосы.

Мне зоры промні шлюць здаля.
Азорваюць мой шлях пражыты.
З табой лячу, мая зямля,
Тваёю сонечнай арбітай.

Няма чаго мне шкадаваць,
Час прамінуў, і песні спеты.
Не буду мары пазычаць
У жоўтай восені для лета.



Каля стала адзін стаю
У гэты вечар навагодні,
Сабе свой смутак прадаю
З усмешкай нейкаю лагоднай.

Не ў першы раз і не ў другі
З сабою трэба таргавацца,
З асколкаў шэрае смугі
Не кпіць, а імі дзівавацца.

Адзін сягоння за сталом
І сам сабе хлушу бязбожна,
Што расквітаўся ўжо з вінам,
Што піць і шкодна, і няможна.

Не прывыкаць да забарон
І не спрачацца з медыцынай,
Калі пастаўлена на кон
Твая старэчая адрына.

Не патушу святла надзей,
Ад суму сэрцам не астыну.
Я гэты навагодні дзень
Сабе на памятку пакіну.



Каб начы не паддацца,
Спадзяюся на ранак.
Над зямлёю іскрацца
Перавяслы маланак.

На агні я жаданняў
Падрумяню пачуцці,
Іх хачу на світанні
Па-юнацку адчуць я.

Хоць на час невялікі
Я хацеў перайначыць
Начы хмурыя ўскрыкі
На праменьчык гарачы.

Уладанні начныя
Гром калоціць знянацку,
Не адкінеш стыхію,
Як дзіцячую цацку.

Шэрань начы рассее
Санцавейны світанак.
Пазбіраю ў расе я
Шкельцы грозных маланак.

## МАЯ АШЧАДКАСА

Не было нястачы ў часе,
Не прыспешваў я падзеі,
А ў душы, што ў ашчадкасе,
Я хаваў свае надзеі.

Так з маленства павялося,
А чаму — і сам не знаю,
І не думаў, што ўжо ўвосень
Іх у сэрцы адшукаю.

Браў я з памяці і траціў
Тыя мары, тыя думы,
Што былі маім багаццем,
Пажыццёвым добрым румам.

Хоць са старасцю няўмольнай
Мой рахунак ашчадкасы
Быў расці не вельмі здольны,
А змяншаўся час ад часу,

Невычэрпнаю крыніцай
Аказаліся надзеі,
З імі мне юнацтва сніцца,
З імі сэрца маладзее.

Не збіраў надзей я звонкіх,
Па няспраўджаных не плачу,
Іх з уласнае скарбонкі
На свае патрэбы трачу.



З такога маленства я выйшаў,
З якога мы выраслі ўсе.
...Навокал крапіўная ціша
І мох, што парос на страсе.
Буслянка старая на ліпе.
Вірлівыя грозныя дні...
І лёс нам аднолькавы выпаў
Кастрычніка сцяг бараніць.
Былі мы бясстрашнымі дзецьмі
Ад першай хадзьбы да стала,
Па краі, па сіняй планеце
Нас праўда да сонца вяла.
Настойліва, смела, упарта
Мы свой узвялічвалі дом
За мудраю школьнаю партай,
За новым фабрычным станком.
І мы не здалі на знявагу
Ні гонар, ні славу сваю,
Здалелі пад ленінскім сцягам
Здабыць Перамогу ў баю.
Было нам не лёгка з руінаў
Нанова свой крок пачынаць,
Сваю адбудоўваць краіну,
Красою зямлю аздабляць.
Мы ладзілі край, будавалі
Парадак на роднай зямлі,
На вахтах за тых мы стаялі,
Што з бітваў прыйсці не змаглі.
Не стомімся мы захапляцца
Зямной незакатнай красой.
Жыццё мы ўпрыгожваем працай,
Любоўю к радзіме сваёй.

# МОЙ ГЕРОЙ

Свайго героя не шукаю недзе,
Я ведаю яго жыццёвы шлях.
Са мною ён на працы і ў бяседзе,
Са мной заўсёды дома і ў гасцях.

Ад самага маленства ён са мною,
Ён гартаваў сябе са мной і рос,
З Магніткаю, Кузбасам, Цаліною
Звязаў і ўславіў свой працоўны лёс.

Ён на сабе пранёс увесь цяжар вайсковы,
Гарэў у танку, гінуў у баю,
І ўваскрасаў ён для атакі новай,
Радзіму праслаўляючы сваю.

У цяжкі час не аддаваўся скрусе,
За смерць плаціў ён смерцю.
Кроў за кроў!
За волю і за шчасце Беларусі
Пякельных не баяўся ён баёў.

Няма цаны геройству і адвазе,
Прайшоў пачэсна ён ваенны шлях.
У воўчым логаве ён на рэйхстазе
Узняў вялікай перамогі сцяг.

Ім з попелу, з руінаў край узняты,
Збудаваны і Трактарны і МАЗ.
Уславіць пяцігодкаю дзесятай
Ён родны край і непаўторны час.



Пагусцелі туманы пад ранне,
Нёман не плюскоча, ціха ўдаль ідзе.
На чаўне маўклівага світання
З ночы выплывае новы дзень.

Салаўі свае адпелі песні,
Недзе ў Афрыку пайшлі драчы.
Подпіс свой у кнізе паднябесся
Жураўлёў пакінулі ключы.

Восень супынілася ў балотах,
Трэба выплакаць свае дажджы.
Саступаць няма ў яе ахвоты
Для мяцеліц белых рубяжы.

Хай тады завеі ладзяць гульбы,
Вецер снег мяце, трашчыць мароз,
Як збяром апошні цэнтнер бульбы
Са сваіх падвораных палос.

Сцеле рунь зялёную аўчыну,
Каб не змерзла ў полі збажына,
Каб зямля не здолела астынуць,
Не спазнілася прыйсці вясна.

*

Я зноў сваю наведаў вёску,
Дзе нарадзіўся і ўзрос.
Шумяць таполі і бярозкі,
Гудзе на Нёмне новы мост.

Ад плошчы вуліцы пабеглі
Ва ўсе бакі. Багата змен!
Няма хацін тут больш нягеглых,
На дахах частакол антэн.

Палац культуры не вясковы,
Будынак школы побач з ім.
Катэджаў гурт двухпавярховых
На прыдарожжы крыжавым.

Хоць не знайшоў старыя сцежкі,
Што беглі некалі ў гаю,
Я землякоў сваіх па ўсмешках
Душой усюды пазнаю.

І мне здалося гэтым часам
Такім прыгожым, веснавым,
Не вуліцай свайго калгаса —
Іду пасёлкам гарадскім.



Яшчэ не ўсе прапеты песні
Аб зорным небе, аб вясне.
Сваёй чароўнасцю на ўзлессі
Сягоння ўсцешыў лён мяне.

Палетак з зыркае сінечы!
Я параўнання не знайшоў
Табе ў задумны гэты вечар,
Наш беларускі слаўны шоўк.

Здаецца, неба тут упала
Паміж пшаніцы і аўсу
І ў колер свой пафарбавала
Зямлі вясенняй паласу.

Пяюць калгасніцы Палесся,
Ім выйшаў вечар наўздагон.
Над полем пралятае песня
Пра сінявокі лён.

* * *

На крокі дні не вымяраў,
Не параўноўваў іх, не важыў
І пагадзінна не збіраў
Тых дзён для будучага стажу.

Жыццё наперадзе было,
Яно і клікала ў дарогу.
Усё спявала і цвіло,
Не ўмела нараджаць трывогу.

Ніякі змрок не дакучаў,
Над галавой не віслі хмары,
Тых песень вецер не іграў,
Што будзе граць пасля пажару.

Пажар кахання. Ад кастра
Збіраць ці варта галавешкі,
Калі з асенняга двара
Удалеч уцякуць усмешкі.

Я толькі прыгадаць магу
І сумны час, і час вясёлы,
Са шчасцем пасварыць тугу
І ад журбы не вешаць голаў.

Няма каго мне дакараць,
Што спраўджаны не ўсе надзеі.
Жыццё не ўмеў я шкадаваць
І выхваляцца ім не ўмею.



Зблытаны сэрца парывы,
Хтосьці пасеяў тугу.
Бачыць жыццё ў перспектыве
Я ўжо, відаць, не змагу.

Нешта не так адчуваю
Дзён маладых пекнату,
Нешта шукаю, губляю,
Бачу адну пустату.

Месяц, як жоўтая дыня,
Вось на зямлю ападзе.
Ён у прыжмуранай сіні
Ціха між воблак брыдзе.

Колькі тых гукаў у цішы!
Слухаю іх на дварэ.
Сум мае думкі калыша,
Сон у палон не бярэ.

Бэзам ды мятаю-рутай
Я цішыню ўзварушу,
Шэры дакучлівы смутак
Вострай касою скашу.

Вецер туманы развее,
Паразганяе з дарог.
Глянь на усход, ужо днее,
Месяц скаціўся за лог.



Цяжка ноч перабыць,
Сон не хіліць к пасцелі,
Нельга дні мне забыць,
Калі спаў на панелі.

Буду я жартаваць,
Што хваробы заелі.
Стала цвёрда мне спаць
І на мяккай пасцелі.

Змены дня і начы
Нараджаюць трывогу,
Трэба зубы лячыць,
І мяняць трэба ногі.

Як хваробы сабраць —
Нагрузіць сябе сумам.
А калі працаваць,
А калі ж тады думаць?

Вось таму я не сплю,
А хаджу, разважаю,
Што люблю, што цярплю,
Што ў жыцці прычакаю.

Не прасплю ў гэты год,
Маладым на здзіўленне,
Ані ночы прыход,
Ані дня нараджэнне.



Не заўсёды сярдзітыя словы
Нараджаюцца ў злоснай душы.
Абыходжу людзей я суровых
І баюся змярцвелай глушы.

Не кідаю ў таварыша камень,
Не ступаю людзям на мазоль,
Крочу з песняю па глухамані,
Абуджаю дрымотную золь.

Не люблю заставацца ў абозе,
Выбіраць перагружаны шлях.
Я з юнацтва ў хадзе, у дарозе,
Хоць і сам ужо ў добрых гадах.

Я забыў перажытыя былі.
Хачу ў сэрцы крыху закрануць
Тыя дні, з якіх казку стварылі,
Тыя дні, што ў легендах жывуць.

Я палеткі люблю і дубровы,
Сею ўсмешкі ў здранцвелай глушы.
Знаю я, што вясёлыя словы
Нараджаюцца ў добрай душы.

*

Нагрузіла грамамі вясна
Чорных хмар калясніцы.
На грамніцы ўчыніла яна
Свой агляд бліскавіцам.

На шалёных стаенных канях,
Белахвостых аблоках,
Церабілі вятры сабе шлях
У насупленым змроку.

Ліўні падалі з грозных нябёс
На абшар чабаровы.
А вятры разгружалі з калёс
Матэр'ял перуновы.

Ад грамоў звар'яцеў небасхіл,
Перабольшана смета
І вятроў, і маланкавых сіл,
У аварыю трапіла лета.

Не пашыта аброць для стыхій,
Пры сваёй яны ўладзе.
Я прашу цябе, вецер, не вый
У малым маім садзе.

*

Мы ў дарозе, мы ў трывозе
Едзем да сваіх мясцін.
Мы з сабой навіны возім,
Панараму ўсіх навін.

Дзе б ні быў я, дзе б ні ехаў,
Не на злосць і не на страх
Патрасаю поўным мехам
Я парадаў і заўваг.

Аглядаю са стараннем
Я калгаснае дабро.
Потым стаўлю я пытанні
На крытычнае рабро.

Гэта так, а гэта — гэтак,
Гэта ўжо зусім не так.
Тут засмечаны палетак,
Там не планавы хмызняк.

Шмат заўваг і перасудаў.
Карак старшыня скрабе.
Добра. Дзякуй. Не забуду.
Будуць грушы на вярбе.

Сон прысніўся мне аднойчы,
Як сябе я правяраў.
Толькі я заплюшчыў вочы —
Над сабой суддзёю стаў.

Як палаяўся з сабою,
І з другімі больш маўчу.
Над сабою быць суддзёю
З таго часу не хачу.



Не кожны крок быў у жыцці шчаслівы,
Было і сонца, быў і мокры снег.
Наследаваць сардэчнаму парыву
Бывала проста немагчыма мне.

Я не шукаў прычын тых летуценняў,
А бег на маладосці галасы,
Адрозніваць вучыўся цацак цені
Ад прамянёў непаказной красы.

І чырванеў, як неба на закаце,
Калі рабіў я памылковы крок,
Калі падманныя пачуцці ў хаце
Сабе свой апавучвалі куток.

*

Усе здзяйсняліся жаданні,
Быў повен я высокіх мэт,
Ды захварэў я на каханне,
Перавярнуўся белы свет.

Не спаў, не еў я, мітусіўся,
Якіх не зведаў я пакут,
Самога як завуць, забыўся,
Ну, думаў я, жыццю «капут».

Раней у добрым быў здароўі,
Баяўся гора і спакус,
Дык трэба зблытацца з любоўю,
Уздзець на шыю цяжкі груз.

Чаму ж, з якой такой прычыны
Я волю некаму аддам?
Гавораць, бог стварыў жанчыну,
Зірнуў — і засмяяўся сам.

Хоць быў калючым я і з перцам,
Не асцярогся ад бяды.
І адабрала ў мяне сэрца
Адна жанчына назаўжды.

Цяпер люблю яе я ўсмешкі,
Красу кахання песціць час.
Мы ходзім па жыццёвых сцежках,
Як некалі, як першы раз.

Не ўсе надзеі і жаданні
Сваім я сэрцам абагрэў.
І не забуду час, калі каханнем
На ўсё жыццё я захварэў.

* * *



Не выходжу з граніц свайго свету —
Перажытыя былі трывожаць спакой.
Песні восені, музыка лета
Нараджаюць адменны настрой.

А настрой тыя думкі ўскалыша,
Што сваю ўсё шукаюць раллю.
Для душы не патрэбна зацішша,
У зацішку жыццё я прасплю.

Мне пабыць аднаму не ўдалося,
Не ўдалося пазбегнуць пакут.
Ўсё былое ка мне ўварвалося,
Каб аддаць маё сэрца пад суд.

Пазбіраліся смуткі, няўдачы,
Эталоны трывог ды бяды,
З дзікім рогатам, скаргамі, плачам
Зганьбавалі былыя гады.

Быў пабіты я крытыкай вострай,
Расшумеўся стракаты кірмаш,
Што не даў ім ні ходу, ні росту,
Што зняважыў паклёп і шантаж.

Ледзьве праўда мяне ўратавала
Ад шалёнай бяды, ад пагроз.
Кажуць, гора ў гадах маіх мала,
Я з наплывам не справіўся слёз.

Што не трэба, дык тое і сніцца,
Не сціраю я даўніх падзеяў сляды.
Хай булькочуць у сэрцы крыніцы,
Адгрымелі нядарам гады.

* * *

Сляды я крыўды не збіраў,
Не грэў за пазухай каменне,
За золата не выдаваў
Пазалачонае мігценне.

І ад нядобрых я людзей,
Як мог, заўсёды адбіваўся,
Бо верыў я красе надзей,
Як богу, праўдзе пакланяўся.

Я з сэрца праганяў тугу,
У хату не пускаў самоту,
Сябрам не падстаўляў нагу,
А з імі падзяляў турботы.

І крыўды не збіраў сляды,
І дружбакам святла не засціў,
Таму і лёс мае гады
Бярог ад смутку і няшчасця.

А дробязь нейкіх там няўдач
Быць не магла бядой і горам.
Адна сляза — яшчэ не плач,
А плач, калі іх льецца мора.

Лепш у турботах час дажыць,
Чым пад застрэшшам марнавацца.
Да скону буду даражыць
Я чалавечым шчасцем — працай.

*

Расслабленасць раджае цені,
Схіляе чалавека сон.
Калі знасілася сумленне,
Ляцяць надзеі пад адхон.

Ані жаданняў, ані смагі,
Усё з душы змялі вятры.
Маной раззброена адвага,
І мар патушаны кастры.

З сумленнем гнуткім, нетрывалым,
Куды там выстаўляць пасты,
Калі за дальнім перавалам
Жаданняў спалены масты.

І сонцу, трэба ўспыхнуць сонцу,
Нашчэт развеяць млявы змрок,
Каб зноў загрукаў па старонцы
Упэўненых імкненняў крок.

Ісці ў жыццё, у свет шырокі
Патрэбна мужнаю хадой,
Ля цёмных не спыняцца вокан,
Спяшыць за дальняю зарой.

Калі знасілася сумленне,
Ляцяць надзеі пад адхон.
Не застанецца нават ценю
Ад некалі вірлівых дзён.

*

Люблю, як чалавек, зямную кулю.
Пашану аддаю вясне найперш.
Надыдзе час, і я падкаравулю
Сваю жывую тэму і свой верш.

Пакуль жа ўсё, нібыта той геолаг,
Хаджу па нетрах, мераю зямлю,
Збіраю весткі аб лясах і долах
І ўсё ў закутачак душы тулю.

Бывае часам, што мільгнецца слова,
Яно, здаецца, знойдзена яно!
Прыгледзішся, расою каляровай
Ужо адзначана ў жыцці даўно.

Шукаць неадшуканае турботна,
Стамляюся і зноў удаль брыду,
Пасля спачыць кідаюся ахвотна,
Як нейкую там драбязу знайду.

Відаць, што ў пошуках маё ўсё шчасце.
Таму не прыкмячаю дзён хады,
І хмары шлях далёкі мне не засцяць,
І на душы і згода, і лады.

Я абшукаю ўсю зямную кулю,
Надзеям жа няма ніякіх меж.
Надыдзе час, і я падкаравулю
Нячэпаную тэму і свой верш.

## У НАСТУПНАЕ ВЕРЫЦЦА

Нешта збудзецца,
Нешта забудзецца,
А прыдбана ж было ўжо шмат.
Ды забытае, можа, абудзіцца,
А знябытае ўжо наўрад.
У наступнае смела верыцца,
З ім нам жыць і яго здабываць.
Нам не ў першы раз сілай мерацца,
Неадольнае перамагаць.
Планы партыі роднае — нашыя!
Асвятляюць нам шлях сонцы мэт.
Мы з надзеяй,
Што ў душы назапашаны,
Перайначым жыццё, белы свет.
Вечнасць з вечнасцю прыйдуць да згоды,
Каб агонь нашых мар не згасаў.
Мы будуем жыццё назаўсёды
З самых лепшых жаданняў і спраў.
Будуць новыя БАМы пракладзены,
Будзе казачным кожны наш год.
Нам багата, нам многае дадзена,
Дык і шмат запытае народ.
Мы і смелыя,
Мы і гордыя,
Сэрцы мужныя ў нашых грудзях.
Будзем мераць мы крокамі цвёрдымі
Незнаёмы, няходжаны шлях.
Нешта збудзецца,
Нешта забудзецца,
За дарогу прыдбаем мы шмат.
Увесь свет,
Увесь край наш абудзіцца
Ад імклівасці ўдарных брыгад.

## ВАГА СЛОВА

Словам можна выказаць усё,
Словам можна не сказаць нічога,
Абпаліцца, быццам аб касцёр,
Збіцца з непратоптанай дарогі.

Слова мае розную вагу,
То алмаз, то жэмчуг перацягне,
Ходзіць, бродзіць недзе на рагу
Ці грукоча вулканічнай магмай.

Як не звязаны паміж сабой,
Дык, як дубчыкі, не маюць сілы,
То атручваюць жыццё журбой,
То ўздымаюць лёс зямны на крылы.

Многа ёсць на свеце розных слоў,
Шчырых, цёплых, як бальзам, гаючых.
Я збіраю з ніў іх і з гаёў,
Толькі сцерагуся слоў балючых.

Ды ад іх няма куды ўцячы,
Безліч іх пад кожным плотам.
Сцеражыся, могуць апячы,
Нізавошта атруціць самотай.

Словы нам дараваны жыццём,
Каб мы з іх красе складалі песні,
Каб заўсёды чалавечы дом
Быў ад радасці і шчасця цесным.

## ЗАКЛЯЦЦЕ АД ГОРА

Песні не ладзяцца зборы,
Восень стаіць ці вясна.
Клікнеш — яна на прасторы,
Клікнеш — з табою яна.

З песняй і гора не ў знакі.
Глянь, як красуе закат.
Воблакі, быццам бы макі,
Хусткі калгасных дзяўчат.

Ледзьве ты ногі валочыш,
Шлях стаў высокай гарой.
Раптам мелодыя крочыць
Стоме насустрач тваёй.

Пырснулі, нібы праменні,
Гукі «Славянкі» ў разлёт.
Зніклі знямоглыя цені,
Зноў ты гатовы ў паход.

Як выпадала мне туга,
Стылі пачуцці ў журбе,
Песню, вясёлага друга,
Клікаў тады да сябе.

Знаць, недарэмна ў народзе
Прымаўка ходзіць здаўна:
Шчасцем, хто з песняй у згодзе,
Не абмінае вясна.

Час не патрэбен на зборы,
З песняю радасны шлях.
Песня — закляцце ад гора,
Песня — і сонца і сцяг.

---



Сяджу ў турме сваіх жаданняў,
Не вытыркаюся з-за крат.
Нябёс пакінуўшы ўладанні,
Пайшло ўжо сонца на закат.

Яму прыйсці на захад трэба,
І ноч там знікне спакваля.
Сваё ж за акіянам неба,
І людзі ёсць там і зямля.

А мне няма куды спяшацца,
Хапіла часу без начы.
Хачу я ў марах пагушкацца,
На ўзлессі ціхім адпачыць.

Няхай пасняць мае жаданні
У свежым водарным стажку.
Іх разбуджу я на світанні
На росным ліпеньскім лужку.

Пакуль што я ў турме імкненняў
Не буду краты разбіваць.
Мне ж у краіне летуценняў
Не раз патрэбна пабываць.



Словы хацеў бы пачуць я,
Каб не было ў іх падману.
Я не зняважу пачуцці,
Іх утаймоўваць не стану.

Выраслі ў сэрцы, саспелі,
Кветкамі радасці сталі,
Стрэць іх даўно мы хацелі,
Доўга ў дарозе шукалі.

Што ж ты пахмураю стала,
Стомлена вочы закрыла?
Хіба каханне завяла,
Хіба яго ты згубіла?

Вось і пагасла заранка,
Не нарадзілася песня.
Сумнаю стала палянка
У маладым яшчэ лесе.

Тут не да жартаў і смеху,
Стаў я пахмуры, як восень.
Толькі дразнючае рэха
Некуды павалаклося.

Сам захацеў жа пачуць я
Словы без фальшу, падману...
Што ж, не сышліся пачуцці,
Іх зневажаць я не стану.

## БЕРАГ НАДЗЕЙ

Усё жыццё ён прада мной,
Прыветны, радасны, нянаскі,
За сінім морам, за гарой,
У тым краі, дзе казкі.

І кожны час, і кожны дзень
Ён светлым паўстае прывідам.
На бераг песень і надзей
Я ўсё-такі калісьці выйду...

Хаджу па пушчах і гаях,
Зачаравання ў сэрцы ўдосталь,
А я ж усё шукаю шлях
На бераг той,
На дальні востраў.

Мяне ён вабіць і заве,
Нібы пчалу з нектарам краска.
Ой, на якой жа мураве
Мая нязнойдзеная казка!

Я не сумую, не тужу,
У сэрцы заглушаю змогу,
У кайстру мары пагружу,
З сабою іх вазьму ў дарогу.

Свой шлях я да канца прайду
З сумленнем чыстым, яснай верай,
Што ўрэшце ўсё-такі знайду
Надзеяў запаветны бераг.

## МАІМ СУЧАСНІКАМ

Не назіраў жыццё я збоку,
Ва ўсіх вірах я пабываў,
З сучаснікамі крок за крокам
Народу шчасце здабываў.

Ад самай першай пяцігодкі
І ўсе наступныя гады
Маю запомнілі паходку
Мястэчкі, вёскі, гарады.

Краіна наша будавала
Навечна лёс прыгожы свой.
Што ўсім на долю выпадала,
Было і доляю маёй.

І мне не сорам аглядзецца,
Усмешкаю расквеціць твар,
Што вытрымала сэрца
Нялёгкага жыцця цяжар.

Не назіраў жыццё я збоку,
А пабываў ва ўсіх вірах,
З сучаснікамі крок за крокам
Да сонца церабіў я шлях.



Пратрашчала сойка на сасне,
Прасвісталі на кустах сініцы.
Вечар. Хутка лес ужо засне,
Што ж яму ў мяцеліцу прысніцца?

Сняць сярод асінніку дубы,
Што ў іх адраслі ізноў чубы,
Ад гнязда ніводзін сук не ўгнуўся,
Па гняздзе тым пахаджае бусел.

На бярозе звоны завушніц,
І з вясенняй радаснай нагоды
Колькі тут вясёлых чараўніц
На купалле ладзяць карагоды.

Я гляджу на елку і сасну,
Ім зімою снежнай не да сну.
У накідках, шапках з гарнастая
Кожная царэўнай выглядае.

Спяць пад белай коўдрай верасы.
Толькі месяц воч сваіх не плюшчыць.
Да вясны рыхтуе галасы
Казачная, песенная пушча.

* * *

Вятры над асінаю дрогкай
Згружалі на ноч туманы.
Было ваяваць нам нялёгка,
А сніліся лёгкія сны.

Маленства куткі каля Вусы,
І ў кожны абед пірагі,
Лугоў аксамітных абрусы,
Мурожнага сена стагі.

Бярозкі смяюцца ля хаты
У белых сваіх фартушках,
А побач на ліпе бусляты
Вымерваюць крылаў размах.

Блукае па выгане статка,
Дзесь трактар вурчыць за ляском.
Шукаю на Лошу я кладку,
А кнігаўкі ў плечы — крылом!..

І толькі чым далей, тым болей
Мне сніцца балотная твань.
Саскокваю з ложка ад болю,—
Вайны разгулялася здань.

Хоць біцца было нам нялёгка,
Нам лёгкія сніліся сны.
У памяці нашай нядрогкай
Прывіды не нікнуць вайны.



З поля дыхае, што з печы
Неастылы дзённы жар.
Спатыкнуўся позні вечар
Аб асінавы гушчар.

Стаў нябачным шэры морак,
Глухаваты, нібы пень.
Змрок разліўся хісткім морам,
Цьмяным дрэвам да калень.

Ночы зморануюцішу
Не трывожаць трактары,
Нават вецер не калыша
Статка ліпак на гары.

Ператруджаная ціша
Хай ад груку адпачне.
Нешта зоры ў небе пішуць
На блакітнай цаліне.

На траве дымяцца росы,
Спіць туман у лазняках.
Сонны месяц ходзіць босы
Па палетках і лугах.

## НА ПАЛЕССІ

*В. Вольскаму*

На сходзе высакародных дрэў —
Дубоў, і ясеняў, і клёнаў —
Гучыць над Прыпяццю напеў,
Зялёнае лістоты гоман.

У велічнай красе гаі
Блакіт падперлі паднябесся.
Каханне славяць салаўі
На ўлонні дзіўнага Палесся.

Вавёркі скачуць па галлі,
Па дрэвах шастаюць куніцы,
З лістоў дубовых медалі
Штампуюць срэбныя крыніцы.

Пяе лясны вясенні хор
Так задушэўна і шырока,
Што іскры слёз з блішчастых зор
Сціраюць белыя аблокі.

Пікіруюць буслы з нябёс,
Балот патрэбна мора ім.
«Лявоніху» між гнуткіх лоз
Танцуюць з асалодай жоравы.

Ну чым не рай — палескі кут?
Другога раю не жадаю.
Ад мітусні і ад пакут
Я сэрцам тут адпачываю.



Хіба можна з гарачай душой
Не любіць недасяжную мару?
Хіба смутак вясенняй парой
Маладому не жорсткая кара?

Я не ведаю сумных надзей,
Асцярожных жаданняў не знаю,
Не ўцякаю ад добрых людзей,
А да злосных — дарогу губляю.

Зведаў шмат у жыцці і трывог,
Сэрца рвалі няшчадна пакуты.
А жыццё для жыцця я бярог,
А бяду на выжарышчах путаў.

А калі б не былі за душой,
А стаялі здаля, недзе з краю,
Незлічонасць надзеяў і мрой,
Як жылося б на свеце — не знаю.

Хіба можна з гарачай душой
Не любіць недасяжную мару?
Нават мне ўжо асенняй парой,
Мабыць, гэта было б не да твару.

*

Ляціць пажоўклая лістота
Пад ногі анямелых дрэў.
Гуляе вецер каля плота,
На дрот чапляе свой напеў.

Пра што спяваюць золкай стынню,
Пра што гамоняць правады?
Зямлю ўпрыгожылі карцінна
Асенняй замеці сляды.

А ў правадоў свая стыхія,
Яны для песень і размоў,
Яны краіны сувязныя,
Яе пульсацыя і кроў.

Сабралі з поля нат салому,
Быў умалотны жытні клін.
Калі народзіць праца стому,
Тады зямля бярэ спачын.

Сваю адменную акрасу
У кожнай пазнаю пары.
Люблю заўсёды змены часу
Я на жывым
зямным двары.

Няхай злятае з голля лісце,
Вятры са снегу коўдру ткуць,
Ляжыць у вёсны наша выйсце,
У новы дзень шляхі вядуць.



Я не хачу ўцякаць ад смутку,
Ён неабходная дэталь,
Як з бесарабу самакрутка,
Калі душу ўстрывожыць жаль.

І нельга ад яго пазбыцца,
Калі нахлыне гром бяды,
Калі сяброў недалічыцца —
Шкада, мінулі іх гады.

Не весялосць, а сум агорне
Тады душу і сэрца мне,
Калі пакутлівая горнасць
К зямлі, як вецер дрэўца, гне.

Гаруе сэрца, сэрца плача,
І слёзы льюцца на труну,
Нічога ж я не перайначу,
І цяжкай страты не вярну.

Лунаць не ўмею ў паднябессі
І нават знаюся з жальбой.
Існуе смутак, каб падкрэсліць
Мяжу між шчасцем і бядой.

*

Са сваёй я чэрпаў студні,
Не вялікай, не малой,
Шчасце ў святы, шчасце ў будні,
І трывогу, і спакой.
Хоць парою хваляваўся,
Што не ўсё яшчэ знайшоў,
Да здабыткаў прыглядаўся
У суседзяў і сяброў.
Па-харошаму зайздрошчу
Ім за моцныя радкі,
Слухаю, як вецер вошчыць
У сасонніку смыкі.
Сам блукаю, сам шукаю
На палетках, над ракой
Песню новую да маю
Пад вясёлкавай дугой.
Я не вычарпаў паловы,
Не растраціў той запас,
Што сабраў, за словам слова,
Для душы на зімні час.
Я нічога не шкадую,
Як ідзе на добры лад:
Слова трапнае ўпалюю
І яму, як дзіву, рад.
А калі не скарыстаю
За дарогу я сваю
Той запас, што ў сэрцы маю,—
Юнакам параздаю!

*

Звычайна, нібы к вадапою,
Збіраліся вёскі да рэк,
Што зваліся Лошай, Тур'ёю,
Здаецца, заўсёды, спрадвек.
Мне помніцца даўняе рэха
Пахмурых сялянскіх сядзіб,
З саломы замшэлыя стрэхі,
Калодзежаў ранішні скрып.
З Пясочнага ў шлях незнаёмы
Пайшоў я малым хлапчуком
З табою у сэрцы, мой Нёман,
З табою, бацькоўскі мой дом.
І я не раскідаў па свеце
Ні гукаў, ні фарбаў тваіх,
Яны ў маіх вёснах і лецях,
У вершах сялянскіх маіх.
Калі ж прыязджаў я дадому
Праведаць сваю старану,
На Нёмне згружаў сваю стому,
Бадзёрасць да сэрца гарнуў.
Насіў у душы я сумленна
Дым з коміна, пацеркі рос.
І воблік быў вёскі нязменна
Тужлівы між ліп і бяроз.
Прыгледзеўся ж зараз да вёскі —
Аселіцы не пазнаю.
Не тыя хаціны, бярозкі,
Нібы не ў сваім я краю.
Мы радасць у сёлы прынеслі,
Забыты дні цяжкіх пакут.
Старое ўяўленне я крэслю,
Стаў песняй мой нёманскі кут.

## РАБІНАВЫ БАНКЕТ

Калі завяне, пацямнее
Лісцё алешын і дубоў,
Лясная Золушка даспее
Для дзікіх птушак і звяроў.

Яны злятаюцца, прыходзяць
З лясных палян за белы свет.
Тады на баравой выгодзе
Шуміць рабінавы банкет.

Да завірух і да мяцеліц,
То ў час начны, то на зары
Каля рабінавых аселіц
Снуюць лясныя жыхары.

Вавёркі з радасным квактаннем,
З вясёлым посвістам дразды,
Шчаглы з чыжамі на світанні
На баль збіраюцца сюды.

А ўжо калі мароз прыцісне
І ляжа снег між баравін,
Ад шчасця амялушка свісне,
Як пакаштуе арабін.

Ля іхніх дрэў заўсёды сходы
Клясоў і рабчыкаў, шчуроў,
Няма ім лепшай асалоды,
Як смак рабінавых пладоў.

Зімой рабіна не шкадуе
Барвовых сонечных пладоў,
Лясная Золушка частуе
І дзікіх птушак і звяроў.

*

Не набыў рамантычных прафесій,
Экзатычных куткоў не шукаў.
Я люблю вандраванне па лесе,
Рад я звонкаму шэпату траў.

І ад сонечных першых праменняў
Да зімовых мяцеліц і сцюж
Я для сэрца збіраю здзіўленні
У блакітны зямны капялюш.

І падзець я не знаю куды іх,
Што прыдбаў за жыццё, за гады.
Захапляюся роднай стыхіяй,
Што зямлі не прыносіць бяды.

Хараством непадманным, някідкім
Запалонена сэрца маё.
Не трызніў залатою я рыбкай,
Жыў красою і ніў, і гаёў.

На палетках жытнёвыя хвалі,
Пошум хвоек, ялін і бяроз
Светлай песняй мяне ўскалыхалі,
Ад згрызот ашчаджалі мой лёс.

Я не ведаю смутку пустога.
На хваробы я час не бярог.
За плячамі старыя дарогі,
Шлях наперадзе — з новых дарог.

Не набыў рамантычных прафесій,
Экзатычных не бачыў краін.
Я люблю, нібы казку, Палессе,
Партызанскай рэспублікі сын.

## ШАРАЮ ЧАСІНАЙ

У сутках ёсць пара такая,
Свой ціхі прадвячэрні час,
Калі душа адпачывае
Ад звадак дробных і абраз.

Калі зары палоска гасне
І змрок спаўзае пад адхон,
Калі становіцца няясным,
Як летуценне, лёгкі сон.

Калі ні гора, ні напасці
Маіх не кратаюць дарог,
Калі адпачывае шчасце,
Ступіўшы ўладна на парог.

Ні мітусні і ні дакору,
Пагаслі ўсе трывогі дня.
Не тухнуць толькі свечкі зорак,
І спее мудра цішыня.

Я рад, што змог забыцца
На ўсё вячэрняю парой,
Што мне салодка спіцца
Такой шумліваю вясной.



Затрымаўся вецер шустры
На шкляной азёрнай люстры,
А над полем тым шкляным
Плаваў тумановы дым.

Свіцязь, нібы тая міса,
А над ёю месяц лысы
Праз хмурынкавы паркан
Нахіліў свой круглы стан.

Абступілі бераг росны
Клёны, ясені і сосны,
І дубы ў цяпле вады
Абмываюць жалуды.

Лес над возерам шапоча,
Прыгадаць легенды хоча,
Што з Міцкевіча пары
Заблудзіліся ў бары.

Мне да раніцы не спіцца,
Не магу я надзівіцца
Летняй чэрвеньскай парой
Свіцязанскаю красой.



Якая прагнасць у прыроды
Расці і абнаўляць сябе,
Ламаць любыя перашкоды,
Іграць на скрыпцы і трубе.

Вучыць і цешыць нашы сэрцы
І слухаць голас той жывы,
Які вясной з зямлі ірвецца
Напевам лісця і травы.

Вырошчваць нават на каменні
Не дрэўцы ніцыя — гаі!
Салодка плачу ад здзіўлення
Над кожнай траўкай у маі.

Такой узрушанай нагоды,
Неўгамаванасці такой
І нам пазычыць бы ў прыроды,
Заўсёды мужнай і жывой.

Вучыцца прагнасці жыццёвай
І нават выжываць тады,
Калі пératвараюць словы
У камень мёртвы халады.

*

У самым росквіце палетак,
Зямля дыхнула зноў вясною.
Яшчэ не адспявала лета
На полі звонкай збажыною.

Яшчэ не выспелі суніцы
На баравых высокіх плехах,
Яшчэ звіняць, пяюць крыніцы,
Бары на поле коцяць рэха.

Матляе вецер мітуслівы
Жытнёвых акіянаў грыву,
Зялёныя збірае хвалі
І ў сонечныя коціць далі.

Яшчэ чуцён зязюлі голас,
Не пажаўцеў ячменны колас,
Няхай яна вясёлым «ку-ку»
Трывожыць сонную дакуку.

Калі спачыць прыляжа лета
І колас сілы набярэцца,
На ўзмежку дуб у бранзалеты,
Нібыта рыцар, прыбярэцца.

Зязюлі ў вырай пададуцца,
Сваё адгаласіўшы лета,
Са мною песні астануцца,
Якія мною недапеты.

А я хлусіць зімою стану,
Што не змяняюся з аблічча,
І верыць гэтаму падману
Да скону буду ваяўніча.



Са мною ты, мая надзея,
У мой асенні позні вечар.
Тваё цяпло душу мне грэе
І ад хвароб пакутных лечыць.

Хаджу паціху над абрывам,
Каб боль суняць, пакуты ўласціць.
Блукае недзе сіратліва
Маё нязнойдзенае шчасце.

Былую маладосць гукаю,
На кліч ніхто не адазваўся.
Далёка за вясеннім гаем
Калісь я з ёю развітаўся.

Не паддаюся я адчаю,
Нібы яшчэ на сілу дужы,
Сябе ж патроху прывучаю
Да новых халадоў і сцюжаў.

Хаця даўно патраціў права
На смех і песні спадзявацца,
Каля апошняй пераправы
Хацеў бы трошкі затрымацца.



Затуманілася даль
Летняй цёплай асалодай,
Пахне жнівеня паркаль
Белай грэчкаю і мёдам.

У сутонную пару
Ходзіць ветрык легкакрылы.
Тушыць воблака зару,
Каб снапы не падпаліла.

Па лагчынах туманы
Сцелюць зрэбныя палотны.
Сніцца казачныя сны
Будуць ноччу мне ахвотна.

Будзе месяц падглядаць
На зямлі людскія тайны,
Будуць пра ўраджай спяваць
Цёмнай ночкаю камбайны.

Я таксама не засну,
Не прасплю пару такую.
Сон я песняй падману,
Казку дню я падрыхтую.

* * *

Не трэба час нам падганяць,
І так ляціць ён,
Што ў пагоню.
Каля травінкі пастаяць
Мне захацелася сягоння.

Паслухаць, як яна расце,
Свае каленцы выкідае,
Як на ракітавым кусце
Балоту песню драч складае.

Між цімафееўкі-травы
Разлёгся вікі цвет лілова.
Аркестр іграе лугавы,
Пяюць і конікі і пчолы.

Між розных кветак я знайду
Траву зязюльчыныя слёзкі,
З яе букецік пакладу
На абеліск каля бярозкі.

Я тут даўно ўжо не бываў,
Хоць не забыў аб даўняй скрусе,
Нап'юся шолаху я траў
І лету ў пояс пакланюся.



Пад іржавай рэдкай асакою,
Дзе пануе царства кіяша,
Дыхае прысутнасцю людскою
Векавога каменя душа.

Як рудзе паверыць каляровай,
Што пад багнай, рыжаю вадой,
Запаведнік схован мармуровы
Для метро, будоўлі маладой?

Для падземкі, для яе вакзалаў
Беларускі казачны граніт,
Кажуць, што Палессе прыхавала,
Што ён з песень і балад адліт.

Ён ляжаў стагоддзі невядомым
З маляўнічай светлаю каймой.
Бачу пад зямлёй з яго харомы,
Што палаюць сонцам і вясной.

Што ні станцыя — жывая казка,
Пекнаты мы той гаспадары.
На адкрыцце дзіва, калі ласка,
Прыязджайце ў Мінск да нас, сябры.

7*

*

Вачамі зорак на зямлю
Глядзіць начное неба.
Са смакам водар я лаўлю
За дзень нагрэтай глебы.

Звычайна ноч,
Што дзень зламаў,
Маўкліва падпраўляе,
Лістоты шоўк і смагу траў
Расінкамі ўталяе.

Быў дзень спякотны і сухі
І громам кашляў глуха.
Пшаніц разлогі,
Дрэў сукі
Віхор крыху пачухаў.

Зламаў сасну,
Прымяў авёс,
Зламыў ячмень упокат
І стог мятліцы перанёс
З узгорка на балота.

Загойвай, ночка, пакрысе
Зямлі дняўныя раны,
Абмый у ліпеньскай расе,
Перавяжы туманам.



Такі блакіт над галавой,
Што чэрпай і фарбуй ім хату,
Якая палысела пад страхой
І мае выгляд стараваты.

Вось промні фарбу развялі,
І хмаркі ружай заалелі.
Звычайна ў неба і зямлі
Багата светлых акварэляў.

На небасхіле сіні бор
У цвет свой колер дабаўляе
І грэбнем чэша хмар віхор,
Што вецер для дажджу збірае.

Я фарбу ў ранішняй зары
Для будана свайго пазычу,
Другія колеры ў бары,
Аздобіць імі дом паклічу.

Я рад, што будуць над зямлёй
Заўсёды і блакіт і сонца,
І час я скарыстаю свой
Для радасці жыцця да донца.



Перамагу недамаганні,
Пакуты старасці стрываю,
Не запалохае змярканне,
Яно сваю прывабнасць мае.

Яшчэ трывожаць мар усплёскі,
Не ўсе надзеі я патраціў,
Яшчэ жаданняў адгалоскі
Я ашчаджаю, як багацце.

І недзе за гарой, за лесам
Жывуць нязнойдзеныя песні.
Я час мінулы не закрэслю,
Яму ў душы маёй не цесна.

Хаця жыццё свой час губляе,
Сябе ад мар не адвучаю,
Дні не пражытага жыцця я
На зорцы ціхай пачакаю.



Я жыць прыгнуўшыся не ўмею
І, не схіліўшы галаву,
Душу расхрыстваю падзеям,
Тапчу зялёную траву.

То сэрца і душа ў трывозе,
То шчасця прывіды відны.
Заўжды ў няходжанай дарозе
І дні зімы, і дні вясны.

Даўно здружыў паміж сабою
Часы прыроды і жыцця,
Ад ліхалецця і ад болю
Збярог праменні пачуцця.

Таму не вельмі адчуваю
Цяжар я пройдзеных дарог.
Шляхі старыя пакідаю,
Каб новы адалець парог.

Я жыць прыгнутым не прывучан,
Забыўшы пра гады і узрост,
Сваіх я не складаю ўключын,
Наперад крочу ў поўны рост.

*

Не прыкляпаць к сцяне праменьчык,
Без руху ён не можа жыць.
Ён быццам пад акном сланечнік,
Яму за сонейкам кружыць.

У руху ён заўсёды жвавы,
На прызбу сядзе, на акно.
Жыцця дзівосныя праявы
У ім закладзены даўно.

Не адабраць у рэчкі хвалі,
Без хваль спустошыцца рака.
Збяднеюць палявыя далі
Без жаўрука і васілька.

Зямлі патрэбен свежы вецер,
Каромысла вясёлкі, гром.
Мярцвее без лістоты вецце,
Без смеху малыша — не дом.

А чалавеку ўсё патрэбна,
Што ўзгадаваў зямны абшар:
І акіян вялікі хлебны,
Загадкавасць блакітных мар.

*

Па дому сумаваць здаля
У кожнага свая прычына.
Як смачна пахне там зямля,
Якія там вакол мясціны!

Дзяўчыну там адну сустрэў
Якраз на ліпеньскае свята,
Не цалаваў, а ўслед глядзеў,
Дзівіўся косамі да пятаў.

Стаяла з пугай у руцэ,
На лузе пасвіла цяляты.
Гулялі промні па шчацэ,
З вачэй злятали чарцяняты.

Яе абветраны быў твар.
А вусны — быццам журавіны.
Таму мне не пазбыцца мар,
Мне сняцца родныя мясціны.

Люблю здаля свой родны кут
І дні маленства ўспамінаю,
А пару дзён пабуду тут,
Красы яго не заўважаю.

Па дому сумаваць здаля
Цяпер у горадзе я змушан.
Расце там жыта на палях,
Ля хаты — яблыні і грушы.



Я з асалодай сумнаватай
Чакаю прыцемкаў начы,
Калі сам вецер зухаваты
Кладзецца ў садзе адпачыць.

Калі яшчэ на луг блакітны
Не выганяе месяц зор,
Калі з палеткаў аксамітных
Цяпло плыве хавацца ў бор,

Калі з расплаўленых аблокаў
Сцякаюць языкі агня,
Калі павольна заціхаюць крокі
Прытомленага спёкай дня.

Я ў прыцемкі, часінай шарай,
Пакуль запаляцца агні,
Збіраю ў гурт старыя мары,
З душы выкорчваю іх пні.

Гарачы дзень пражыў я недарэмна,
Калі спаць хочацца ўначы.
Няхай журба крыху падрэмле
На змораным маім плячы.

*

Ад дзённай млявай духаты
Забраснявелі далі.
Свае галовы на платы
Сланечнікі паклалі.

Ужо дацвітваюць гуркі,
У гэты год іх мора.
І гарбузы, як вепрукі,
Разлегліся ў разорах.

Цыбулі ссохлася пяро.
Аж да марозаў самых
Паўзе па дубчыках гарох,
Чапляецца вусамі.

Усё на градах даспяе,
Для нас расце ахвоча,
Днём добра сонца саграе,
Расою пояць ночы.

І будуць мальвы пад акном
З пчаламі дружбу ладзіць,
І пахнуць мёдам і вінам
Мой агарод і садзік.



На захадзе зліняла барва,
І спаць сабралася зямля.
Спакою я чакаю марна,
Ён прыйдзе да мяне пасля.

Як стомяцца душа і сэрца
І хвалі думак пакрысе,
Нябачны і нячутны вецер
У сна абдымкі занясе.

І я забудуся на момант,
Што дзесь існуе валтузня,
І не сціхае ўночы гоман
Даўно закончанага дня.

І, можа, гэтаю часінай,
Начной прытомленай парой
Нібы наяве птушкай сіняй
Мільгнецца воблік дзіўны твой.

Але над сном я не ўладарны,
Яго падсцерагчы не змог,
У снах багата легендарных,
Нікім не зведаных дарог.

Няхай яны заўсёды сняцца
Без горкіх слёз і без тугі,
Жыцця дзівосныя палацы,
Любві і шчасця берагі.

## ЗМЕСТ

Астрэйка А.

А 91 Памяць дарог: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 112 с., 1 л. іл.
40 к.

Гэтую кнігу склалі лірычныя вершы старэйшага беларускага паэта Анатоля Астрэйкі. У сваіх творах ён натхнёна славіў светлае творчае жыццё савецкага чалавека, росквіт роднага краю, пранікнёна апяваў прыроду Беларусі. Не забываў ён і пра дні партызанскай барацьбы ў часы апошняй вайны, у якой прымаў дзейсны ўдзел. Прыхільнікі паэзіі А. Астрэйкі знойдуць у гэтым зборніку шмат вершаў пра дружбу і вернасць кахання.

$\frac{70403-015}{М\ 302(05)-80}$ 37—80

ББК 84 Бел 7
Бел 2

Анатоль Астрейко
(Аким Петрович Астрейко)
ПАМЯТЬ ДОРОГ
*Стихи*
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактары І. І. Калеснік, Хв. М. Чэрня.
Мастак В. П. Масцераў.
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава.
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо.
Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 669.

Здадзена ў набор 04.10.79. Падп. да друку 12.12.79. АТ 01351. Фармат 75×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,37+0,08 укл. Ул.-выд. арк. 3,79. Тыраж 8000 экз. Зак. 2644. Цана 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.